Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 7 Студня 1932 г. № 1 (26)



## Аб найважнейшым.

*(Замест навагодніх пажаданьняў).*

Сягоньня наша часопісь распачынае другі год жыцьця. І вось, апіраючыся на гэту нашу—праўда, нядоўгую—працу, але затое на шмат больш даўгое нагляданьне жыцьцёвых праяваў, хочам сягоньня сказаць нашым чытачом — дый усім беларусам наагул — тое, што ў гэты мамэнт здаецца нам *найважнейшым*.

У сувязі з сыстэматычным разваліваньнем нашага нацыянальнага і грамадзкага жыцьця, з занядапам нашых культурных установаў, абядненьнем нашага працоўнага сялянства і працоўнае інтэлігенцыі — мы ўсё часьцей і часьцей бачым жудасныя прыклады *нацыянальнае здрады і адступніцтва сярод беларусаў*. Бачым гэта і сярод інтэлігенцыі, і сярод гэтак-званых „людзей простых“. Колькі—да прыкладу — было ў нас гадоў пяцьцьдзесят назад нацыянальна сьведамых і грамадзка чынных ксяндзоў-беларусаў? А колькі з іх цяпер, зьнеахвоціўшыся да беларускае працы праз палітыканства павадыроў беларускае хадэцыі, зусім выракліся ўсялякае беларускае работы і „гадуе бруха“, як выразіўся адзін спасярод іх? — А колькі былых грамадаўцаў перайшло ў варожы беларусам лягер, як да прыкладу, ня шукаючы далёка, „вядамы“ Акіньчыц? — І вось, гледзячы на іх, і людзі „маленькія“, згаладаліся і зьняверыўшыяся ў-ва ўсім, што раней лічылі важным і навет сьвятым, пакідаюць слаўны шлях змаганьня за сваю нацыянальную душу, за родную мову, родную школу і — ідуць да чужых, спадзяючыся, што такім чынам у гэткі цяжкі для ўсіх час прыдбаюць сабе нейкую матэрыяльную карысьць...

Гэта роўна бачаць усе беларусы — бяз розьніцы кірунку і пераканаць ня. Аднак, далёка ня ўсе адчуваюць *страшную небясьпеку ад гэтага зьявішча для беларускае справы наагул*, — а калі і адчуваюць, дык часта стараюцца рабіць такі від, быццам „на Шипке всё спокойно“. Прычынай гэтага ёсьць тое, што на беларускім целе ўсьцяж жыруюць сумежныя дзяржавы, з якіх кожная за грошы стараецца купіць сабе сярод беларусаў пэўную лічбу людзей, гатовых служыць чужой волі — на шкоду й загубу свайму ўласнаму народу, сваім працоўным масам. Гэтыя чужацкія прыслужнікі стараюцца сеяць сярод нас маральны бруд, грызьню, узаемную ненавісьць, а перад усім — недаверие да тых, хто ў працягу многіх гадоў ахвярнае ідэйнае працы ішоў самастойным беларускім шляхам, хто ня кланяўся чужым багом. У выніку такое праваквтарскае работы беларускія масы перастаюць верыць усім і аказваюцца адарванымі ад сваіх дазнаных павадыроў, чаго і трэба нашым ворагам. І вось, карыстаючы з дэзорыентацыі беларускіх масаў, на арэну нашага грамадзкага жыцьця вылазяць розныя „цёмных дарог махляры“, бацькі здрады і адступніцтва, якія ня сілай ідэі прыцягаюць да сябе людзей, а сілай — грошы і подкупу згаладалае беднаты...

Перад імі перасьцерагаем сягоньня ўсіх сьведамых беларусаў. Бо-ж сумныя праявы нашага нацыянальнага жыцьця, аб якіх мы вышэй казалі, — гэта ў значнай меры вынік іх раскладаючае і разьядаючае душы народу дзеяльнасьці. Перад аблічам *пагрозы масовае дэнацыяналізацыі беларускага насяленьня* ўсе павінны ясна ўсьведаміць сабе, што паміж намі ёсьць больш *супольнага*, больш таго, што нас *злучае ў адну вялікую беларускую працоўную сям'ю*, чым таго, што нас *разьдзяляе*. І мы ўсе мусім *дзяржацца дружна і дружна даваць рашучы адпор* усім тым, хто ўносіць да нашага жыцьця палітычную ці рэлігійную грызьню, хто штучна разьбівае нашую жабрацкую вёску на „бяднякоў“ і „кулакоў“, каб толькі *аслабіць адпорную сілу нашага грамадзянства*, каб *перашкодзіць арганізаваньню нацыянальнае і сацыяльнае самаабароны*. Толькі тады ніякая варожая моц ня здолее нас перамагчы: бо-ж добра з'арганізаваная, аб'яднаная аднэй думкай, аднэй ідэяй *грамада* — гэта запраўды *„вялікі чалавек“*, запраўды *непераможны волат-асілак*.

Жудасна-цяжкі пэрыяд перажывае сягоньня наш народ. Але гэтае ліха мусіць мінуць — і мінець тым хутчэй, чым цясьней згуртуем мы нашыя сілы ў няўстаннай, што-дзеннай, усенароднай *працы над будаваньнем усьцяж руйнаванае ворагамі нашымі нацыянальнае культуры, над будаваньнем арганізаванага, сьвядомага нацыянальна і соцыяльна грамадзянства, моцнага і духовава і матэрыяльна.*

## АД РЭДАКЦЫІ.

Мінулы год мы не маглі выдаваць газэту акуратна дзеля браку грошай. У гэтым годзе, хочучы забясьпечыць сваіх падпішчыкаў акуратнай высылкай газэты (штотыдзень), рэдакцыя зьменшыла крышку яе фармат і тым самым паменшыць свае выдаткі на друк і паперу. Але адных нашых высілкаў мала — трэба, каб кожны падпішчык з свайго боку пастараўся высылаць акуратна падпіску. Цана газэты таксама паменшана — замест 6 зл. у год толькі 4 зл. 50. Дык зробім жа ўсе супольны высілак, каб газэта выходзіла акуратна!

Газэту можна выпісваць праз Беларускую Кнігарню У. Манкевіча (былую І. Мятлы) ў Вільні—Вострабрамская вул. 1 (рог Гэтманскай), якая адкрыла свой рахунак у Р. К. О., і такім чынам перасылка грошай з усякае пошты адбываецца дарма. Пераказы будуць далучаны падпішчыкам з другім нумарам, які выйдзе 14 г. студня.

Рэдакцыя.

## Ваенна-палітычная перагрупоўка сілаў у Эўропе.

Каб вытлумачыць сабе запраўды-ж дзіўную згодлівасьць Масквы, якая быццам згаджаецца ня толькі на палітычны пакт з Польшчай — навет з „паў-прызнаньнем“ яе граніцаў, але і на такі-ж самы трактат з Румыніяй з „паў-выракаўньнем“ Бэсарабіі,—трэба ведаць, у якім цяжкім палажэньні апынуліся бальшавікі ў сувязі з сучасным сусьветным крызісам.

Як відаць, узаемная стаўка бальшавікоў на немцаў, а Нямеччыны на СССР аказалася моцна падбітай іх супольным крызісам. Саветам крызіс іхняе гаспадаркі не дае магчымасьці навет сплаціць Нямеччыне на тэрмін пазычаныя грошы, адкласьці сплату якіх не дазваляе Нямеччыне цісучае яе безграшоўе. З другога боку—Нямеччыне, у яе гаспадарчым крызісе і палітычным націску на яе дзяржаў-пераможцаў Саветы дапамагчы ня могуць. Дык Саветы змушаны шукаць у іншых дзяржаваў „прыязнай кішані“, а ў Нямеччыне рыхтуецца да ўлады гітлераўская партыя, якая ня толькі ня ставіць стаўкі на бальшавікоў, але пагражае ім амаль не аружнай інтэрвэнцыяй.

Вось чаму бальшавікі ідуць на ўсе ўступкі Францыі, каб толькі за ўсялякую цану падрыхтаваць сабе ў гэтым новым заўтрашнім „саюзьніку“ апору проці сяньняшняга... Запраўды-ж: трактаты з Польшчай, Румыніяй і Балтыцкімі дзяржавамі — пад дыктоўку Францыі — гэта-ж запраўдны пераварот у міжнароднай палітыцы бальшавікоў. А ўсё гэта — першым чынам — дзеля здабыцьця грошы, недахоп якіх можа зрабіцца грозным, як у ўнутраным палажэньні савецкае ўлады, таксама, як сказана, і ў яе вонкавых адносінах, пазбавіўшы СССР яго нямецкага саюзьніка.

---

У Францыі, як гэта ні дзіўна, рэвэляцыі аднэй з газэтаў аб падпісаным быццам ужо ўрадам палітычным трактаце з СССР — выклікалі наагул вялізарную зацікаўленасьць, блізу — захопленьне! Французская апінія бачыць у гэтым збліжэньні з бальшавіцкім урадам амаль ня „першы крок да ўзнаўленьня слаўнай памяці (?) француска-расейскага саюзу“... Навет такі ярка проці-бальшавіцкі публіцыст, як Бэнвіль, сьцьвярджае, што — „туга па француска-расейскім саюзе расьце ў Францыі па меры расчараваньня ў новых яе саюзьніках у Цэнтральнай і Усходняй Эўропе, як прыкладам, Румынія, каторая ўсё больш аддаецца ў лапы нямецкага павука“.

Думка аб адарваньні СССР ад Нямеччыны (бо-ж не ўдалося — наадварот — адцягнуць Нямеччыну ад СССР—шляхам Лёкарно, Лігі Нацыяў, крэдытаў і інш.) захапіла, як

цьвердзіць прэса, блізу ўсю французкую апінію.

Францускія часопісі літэральна засыпаны артыкуламі, прысьвечанымі СССР, наагул вельмі прыязнымі, часта навет захопленымі ў адносінах да будучага саюзьніка.

Як мы ўжо неаднойчы высьвятлялі, Нямеччына кажа выразна (— толькі-што пацьвярдзіў гэта ізноў сам прэз. Гіндэнбург у сваёй навагодняй прамове), што яна ня можа і ня хоча плаціць больш ніякай ваеннай контрыбуцыі... Нямецкую пазыцыю падтрымліваюць так ці інакш і Англія, і Італія, і Амэрыка... Проці такой магутнай коаліцыі найвялікшых дзяржаваў, якой надаела ўжо ваенна-палітычная дыктатура Францыі ў Эўропе, Францыя стаіць адна, калі ня лічыць яе невялікіх, а ў частцы дык і няпэўных, як Румынія саюзьнікаў... Ня дзіва, што Францыя, як у ліхаманцы, шукае саюзу—хаця-б з самым чортам...

—·—

Цікаўную ілюстрацыю да ўсіх гэтых заблутаных міжнародавых ніцяў і вузлоў дае дыскусія на адным з апошніх паседжаньняў маскоўскага політбюро — у справе замежнай палітыкі Саветаў.

Адны сябры Політбюро рашуча трэбавалі ісьці на ўсе ўступкі Францыі, каб толькі... здабыць ад яе на гвалт патрэбныя грошы. „Атрымай толькі грошы, а там будзе відна, што рабіць далей"... Бо-ж інакш —„не заплоцім Нямеччыне, а тады—Гітлер пойдзе на нас вайной". Так казалі адны.

„Няма чаго ісьці да Францыі, бо-ж яе ўсё роўна не ашукаеш. Няма дурных у Францыі, ня трэба быць дурнымі і нам. Саюз з Францыяй,—гэта-ж разрыў з Нямеччынай і правакаваньне ваеннай інтэрвэнцыі гітлераўскай Нямеччыны проці СССР... А інтэрвэнцыя з боку Нямеччыны—гэта-ж канец бальшавіцкага панаваньня: немцы, як ніхто іншы, ведаюць усе слабыя бакі радавай Расеі, бо-ж утрымліваюць блізкую сувязь як з Г. П. У., таксама і з чырвонай арміяй".

Вось як горача ды крута завязаліся жалезныя вузлы міжнародавай палітыкі з пачаткам новага году.

Ці дадуць новыя саюзы на ўсходзе Эўропы мір ды спакой Эўропе, ці наадварот — выклічуць новы выбух з боку Нямеччыны, якая рвецца да поўні гаспадарчай, палітычнай і ваеннай волі, сказаць цяжка.

—·—

Англійская прэса падае яшчэ адну з прычынаў, чаму Масква гатова падпісаць трактаты аб узаемным ненападаньні з Польшчай і з Румыніяй чым хутчэй, навет яшчэ ў бягучым месяцы студні. Апрача высьветленых у нашым артыкуле іншых прычын, прычына такога пасьпеху ў тым, што ў лютым мае адбыцца (калі ня будзе адкладзена) міжнародавая конфэрэнцыя ў справе разбраеньня. Вось, падпісаўшы „трактаты ўзаемнага забясьпечаньня" з Польшчай і з Румыніяй, бальшавікі спрытна адным ударам забіваюць двух зайцоў: моцна падмуроўваюць свае становішча на гэтай конфэрэнцыі, а адначасна выбіваюць з рук польскай і румынскай дыплёматыі найбольш важкія довады проці зьмяншэньня, як Польшчай, таксама і Румыніяй, сваіх збраеньняў— з прычыны пагражаючай ім з боку Саветаў небясьпекі... Чаму бальшавікі, як і немцы, хочуць зьменшыць збраеньні Польшчы, як і Румыніі, ясна кожнаму.

## Жыцьцё Польшчы.

### Запярэчаньне вестак аб скасаваньні унівэрсытэцкіх самаўрадаў.

У зьвязку з намечаным урадам пераглядам статуту аб вышэйшых школах да міністра асьветы зьвярнулася дэлегацыя рэктароў унівэрсытэтаў, акадэміяў і політэхнікаў Польшчы. Прымаючы гэтую дэлегацыю, міністар заявіў, што ўсе чуткі аб скасаваньні унівэрсытэцкай аўтаноміі (самаўраду) у новым статуце ня маюць ніякай падставы.

### Новы „ужонд" — камісара польскага Банку.

На новастворанае становішча „камісара Польскага Банку" назначаны палкоўнік Коц з пэнсіяй звыш 6.000 зл. у месяц. Пэнсія, як бачым, ня зусім „крызысовая". У дадатак уся опозыцыйная прэса даводзіць, быццам новаствораны „ужонд" — зусім непатрэбны.

**Перачытаўшы газэту—**

**перадай другому.**

## З украінскага жыцьця.

**Цікаўная нарада.** 30.XII. у Львове адбылася новая конфэрэнцыя паміж ваяводай і прадстаўнікамі ўкраінскага грамадзянства. Ваявода Ружвецкі заявіў, што конфэрэнцыя ня мае ніякіх палітычных мэтаў, што ён выступае толькі як шэф адміністрацыі — у мэтах здаваленьня бягучых спушных патрэбаў украінскага грамадзянства, якое нароўні з польскім павінна лічыцца „вспул-господажамі краю".

Украінская прэса даволі стрымана „вітае" новую спробу паразуменьня з боку польскай улады, падчырківаючы, што сваю „цалком аполітычную" конфэрэнцыю п. ваявода зрабіў аднак-жа — акурат напярэдадні студнёвае сэсіі Рады Лігіі Нацыяў.

## З літоўскага жыцьця.

**Зачыненьне ўладамі літоўскіх школ.** Як падае „Słowo", віленскае куратарыум пастанавіла зачыніць дзевяць літоўскіх прыватных народных школ, утрымліваных літоўскім культурна-асьветным таварыствам „Рытас". Пасьля Каляд на гэтай падставе ўжо ня будуць узноўлены заняткі ў літоўскіх народных школах у Вільні, Міцюнах, Гелюнах, Канюхох, Жуйках, Білях, Пелясох, Дубічах і Паволоцах. „Słowo" падае, што прычынай гэтага было невыпаўняньне школамі зацьверджаных Куратарыумам праграмаў і ўжываньне недазволеных учэбнікаў ды школьных дапамогаў...

У тым-жа нумары „Słowa" зьмешчана пісьмо дырэктара літоўскае гімназіі ў Вільні з пратэстам проці ілжывых вестак „Dzien. Wil." аб удзеле вучняў і вучыцялёў гімназіі ў зладжаным камуністамі абходзе „дня галодных". З пісьма відаць, што камуністы — пасьля няўдач у беларускай гімназіі—перакінулі сваю падрыўную-правакатарскую акцыю ў гімназію літоўскую і напярэдадні „дня галодных", 14 сьнежня, пашыралі сярод літоўскіх гімназістаў праклямацыі, заклікаючы да ўчасьця ў вулічнай маніфэстацыі 15 сьнежня. Аднак, дырэкцыя літоўскай гімназіі дала гэтай акцыі належны адпор,—пры чым была змушана трох вучняў выдаліць, а двум запрапанаваць выступіць самім.

Які знаёмы нам, беларусам, абраз. Такія сумныя выпадкі беларускія школы ўжо перажывалі ня раз і затым мусяць асабліва спагадаць братом-літвіном.

# „НЁМАН".

*Літэратурна-мастацка-навуковы месячнік. № 1. 1932.*

З пачаткам новага—1932—году беларусам прыбыла новая часопісь пад вышэйпісаным загалоўкам. У нашым зьбяднеўшым бяспрыкладна культурным жыцьці гэта—незвычайна дадатняе зьявішча, якое трэба шчыра прывітаць. Дык спынімся сягоньня на „Нёмне" крыху даўжэй.

Чырвонай фарбай на белай вокладцы—вельмі скромна і вельмі густоўна—надрукованы назоў часопісі: „Нёман". Чаму гэткі назоў? —вось пытаньне, якое ўзьнімаецца пэўне ў кожнага, хто бярэ ў рукі новую часопісь. І першая думка: ці ня будзе гэта нешта этнографічнае—географічнае? — Але ня зьдзівіцца з прычыны выбару назову той, хто бліжэй знаёмы з беларускай поэзіяй. Бо-ж Нёман—улюбленая рака нашых поэтаў. Колькі дум - разважаньняў аб сучасным жыцьці беларуса-мужыка даў Нёман Коласу (верш „Нёман"); колькі важкіх слоў абурэньня на сучасны заняпад вялікага некалісь і магутнага народу беларускага выказывае праз вусны бурлівага Нёмна Купала („Над Нёмнам"); колькі радасьці і духовага ўздыму перажывае над тым-жа Нёмнам Цішка Гартны, усьведамляючы сабе, што мінае ўжо „пара зьнемажэньня" для беларусаў, што бліснула ўжо і над намі „зара́ Адраджэньня"... Дык ня дзіва, што група нашых маладых поэтаў, якія зьмяшчаюць свае творы ў новым месячніку, за назоў яго абабрала імя гэтае поэтычнае ракі.

З агляду поэтыцкіх твораў і пачнем. Бачым тут перад усім некалькі вершаў **Наталі Арсеневай**, якая ў апошнія гады, на жаль, друкавалася гэтак мала (—мо' ня было дзе?). А першы верш („Першы сьнег"), асабліва прыгожы сваей музыкальнасьцяй (—на жаль, папсаваны Рэдакцыяй!), датай напісаньня паказывае, што поэтка ўсьцяж ідзе наперад. Цэлы рад вершаў даў **М. Машара**, якога мы пазналі ўжо з першага зборнічку яго, выданага пару гадоў назад, як выдатную сілу ў маляваньні родных абразоў прыроды. І ён у гэтым кірунку разьвіваецца далей. Цікаўны верш **Андрэя Адхоннага** („У падарожжы" —з партфэлю „Родных Гоняў"). Па адным вершыку зьмясьцілі: **С. Кулеш** і **Хведар Ільляшэвіч**, ды пару даў **М. Васілёк**, тэматыка якога яўна абнаўляецца. Урэшце маем два ўзоры мастацкае прозы—„Беларуская песьня" **А. Войніча** ды „Песьні жыцьця" **Хв. Ільяшэвіча**, абодва — шчыры водгалас настрояў усіх тых барацьбітаў за беларускую справу, якім давялося каратаць маладыя гады—за вастрожнымі кратамі...

Вось усё. Ня шмат, але мастацкую вартасьць творы гэтыя маюць і паказуюць, што маладое пакаленьне нашых поэтаў у Заходняй Беларусі творыць і будзе тварыць, абы толькі было дзе друкаваць іхнія творы.

А цяпер—стацьці. Бясспрэчна, цэнтральнае месца займае праца **грам. С.**, ведамага беларускага пісьменьніка-мысьліцеля, які пераказаў галоўныя тэзісы працы менскага прафэсара М. Шчакаціхіна аб гісторыі беларускага мастацтва. Гэта — папросту новыя адкрыцьці з галіны мастацкае творчасьці беларускага нацыянальнага генія,—адкрыцьці, пачатак якім даў і сваімі стацьцямі, і сваей зборкай музэйнай сьв. п. Іван Луцкевіч. Гэтак тое, што беспасрэдна з кнігі праф. Шчакаціхіна можа пачарпнуць рэдка хто,—цяпер стаецца даступным шырэйшаму колу чытаючых беларусаў. Праца грам. С. яшчэ не закончана (як і праф. Шчакаціхіна), і працяг будзе друкавацца ў наступных нумарох месячніка.

Гісторыю Беларусі прадстаўляюць дзьве стацьці: праф. **Савіча** („Беларускія школы ў старой Вільні") і **С. Я.** „Вялікі князь Вітаўт як беларускі гаспадар", якую грам. Я. Станкевіч чытаў на паседжаньні сяброў Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні ўвосені 1930 г., пасьвячоным 500-тым угодкам сьмерці Вітаўта. Аб беларускім мастацтве кароткую заметку дае гр. **П. Сергіевіч** („Рупмася аб мастацтве!"); ілюструюць яго—рэпродукцыі абразоў **Сергіевіча** і **Драздовіча**. Музыку прадстаўляюць некалькі народных песьняў з нотамі і—справаздача з канцэрту ў Віленскай Беларускай Гімназіі 5, XII. 1931 г., у якой, на жаль, аб зьместе канцэрту няма абсалютна нічагусенькі...

Замыкае нумар — „Культурная хроніка"; толькі-ж яна яшчэ больш бедная, чым самае нашае жыцьцё...

Вось мы перайшлі і да выяўленьня адʼемных бакоў „Нёмна". І тут мусім затрымацца на тым, што зьяўляецца вынікам анархічна-рэформатарскае дзеяльнасьці ў галіне беларускае філёлёгіі сябры Рэдакцыі грам. Я. Станкевіча. У бочку з мёдам ён уклаў сваю лыжку дзёгцю—з усімі сваімі „сьмяхотамі і дівосамі". „Рэдакца", „раца", „позыца" і т. п.—гэта маюць быць „зьбеларушчаныя" чужаземныя словы „рэдакцыя", „рацыя", „пазыцыя" і т. п. Стараючыся як-быццам аб тое, каб ягоная мова была непадобнай да іншых славянскіх моваў, ён адначасна ўводзіць замест беларускага „ужо"—„ужэ", замест беларускіх формаў ступеняў прыраўнаньня „вышэйшы", „ніжэйшы", „глыбейшы"—польскія формы „вышшы", „ніжшы", „глыбшы" (—„wyższy", „niższy", „głębszy"), або: „зраўнаў"

**Зьнішчэньне польскае школы.** Як пішуць польскія газэты, у вёсцы Геранцах, каля Аранаў, паліцыя заарыштавала двух маладых сялян-літвіноў, якіх вінавацяць у тым, што яны зрабілі напад на тамтэйшую польскую школу, разграмілі яе і зганьбілі польскага дзяржаўнага арла, пакінуўшы на сьценах проціпольскія надпісы. Трэці ўчасьнік нападу быццам уцёк у Літву.

# З усяго сьвету.

### Перагаворы Саветаў з Румыніяй.

Маскоўскі ўрад афіцыяльна запрапанаваў Румыніі распачаць перагаворы ў справе трактату аб узаемным ненападаньні, прапануючы за месца перагавораў выбраць Рыгу ці Ангору, сталіцу Турцыі.

### Узнаўленьне „пасыўнай рэвалюцыі" ў Індыі.

Як можна было прадбачыць, зараз-жа пасьля павароту Гандзі з Лёндану дамоў, пачалі рашуча выяўляцца пасьледзтвы правалу так званай „конфэрэнцыі круглага стала", ці разрыву паміж правадырамі індыйскіх незалежнікаў і англійскім урадам. Вярнуўшыся ў Індыю, Гандзі зьвярнуўся да віцэ-караля Індыі з прапазыцыяй—на асабістым спатканьні—зрабіць апошнюю спробу ўхіліць узнаўленьне барацьбы, прыпыненай на час лёнданскай конфэрэнцыі. Гандзі паставіў варункі, на якіх ён браўся гэта зрабіць. Адказ віцэ-караля, ведама-ж прадыктаваны яму з Лёндану ўрадам Мак-Дональда (чытай: фактычна партыяй консэрватараў!), адкінуў гэтыя варункі. Тады Гандзі выслаў тэлеграму віцэ-каралю, што акцыя байкоту англійскіх тавараў, стрыманьне аплаты падаткаў і непаслухмянасьць англійскім уладам узнаўляецца. Агульна-індыйскі конгрэс зацьвярдзіў гэтую пастанову Гандзі сваёй рэзолюцыяй, дадаўшы яшчэ пастанову аб байкоце ўсіх англійскіх урадавых установаў, навет такіх, як тэлеграф, суды і т. д. Гэтым абвешчана нанова **нацыянальная вайна ў Індыі проці англійскага панаваньня.**

Апошнія весткі кажуць, што Англія прыняла выкліч: пастановай віцэ-караля **ўсе правадыры „агульна-Індыйскага конгрэсу"—з Гандзі на чале—арыштаваны.**

Новы год адкрывае новую, няведамую страніцу гэроічнай барацьбы найбагацейшага ў сьвеце краю дый найшляхотнейшага у сьвеце народу за незалежнасьць...

---

(„zrównał"), „у значэньню" замест „у значэньні" („w znaczeniu") і т. п. А ўжо зусім дзіка выглядае перакручанае слова „цырамоня", што мае азначаць лацінскую „цэрэмонію"!

Усе гэтыя „дзівосы" і „сьмяхоты" проста перашкаджаюць чытаць зьмешчаныя ў „Нёмне" стацьці. І з сумам прыходзіцца сьцьвярдзіць, што Рэдакцыя гэтак сталася памагальніцай гр. Я. Станкевічу ў анархізаваньні беларускага правапісу, вырачаючы тых, хто вучыўся паводле беларускіх граматык, прызнаных Беларускай Акадэміяй Навук, у стан „паўторнай бязграматнасьці". — Але асабліва сумна, калі рука чалавека, цалком пазбаўленага духовае культуры, бярэцца „папраўляць" вершы нашых поэтаў. Гэтак, чамусьці ня ўзьлюбіўшы слова „сяньня", гр. Станкевіч, ваюючы з ім, папсаваў два вершы: успомнены ўжо верш Арсеневай „Першы сьнег", дзе напачатку згармонізаванае з далейшымі словамі „сяньня" (—„Сяньня раніца й сонца ўставалі ў вянку з каляровых агнёў"...) — на немілагучнае „сядня"; другі — верш М. Васілька „Як калісьці", у якім рым „сяньня — каханьне", зусім добры і мілагучны, перароблены на „сядня — каханьне", дзе, як бачыце, рыму ўжо зусім няма... Таксама папсаваны і другі верш Арсеневай, у якім замест ужытага поэткай слова „крадучыся" асаблівы „корэктар" уставіў нейкае незразумелае „цікайчыся".

Закончым наш агляд пажаданьнем, каб маладая Рэдакцыя не дала гр. Станкевічу магчымасьці рабіць у часопісі свае няўдалыя і сьмешныя экспэрыменты з псаваньнем мовы і анархізаваньнем правапісу і граматыкі, ды, каб асабліва аберагала ад яго—поэзію. Інакш „Нёман" страціць усе сымпатыі грамадзянства, на якія сваім зьместам зусім заслугуе...

А. Н.

### Хмары над Ціхім акіянам.

Ваенная акцыя Японіі ў Манчжурыі, на якую дагэтуль неяк даволі спакойна ўглядалася Амэрыка, толькі ўсьцяж напамінаючы Японіі аб яе падпісах на розных міжнародавых трактатах, цяпер пачала ўжо востра нэрваваць ды непакоіць амэрыканскі ўрад. Амэрыканская прэса ўзяла раптам вельмі рэзкі тон адносна да Японіі. А як раз у радасны для ўсей Японіі дзень—узяцьця Цінь-Чжоў—амэрыканскі флёт—марскі і паветраны—зрабіў **яўна скіраваную проці Японіі варожую дэманстрацыю.**

На няшчасьце якраз у апошнія дні меў месца рад гвалтаў з боку японскіх уладаў у Манчжурыі над амэрыканскімі дыплёматычнымі прадстаўнікамі. У Мукдэне японскія паліцыянты назьдзекаваліся і пабілі амэрыканскага консуля.

Спадзяюцца з дня на дзень рэзкае ноты пратэсту з боку Амэрыкі, якая **можа давесьці да ваеннага канфлікту.** Як бачым, новы год пачынаецца пад знакам **вялізарнай буры над Ціхім акіянам.**

### Замест прамовы прэз. Гіндэнбурга — камуністычная пропаганда.

Уся Нямеччына ўсхвалявана запраўды-ж сьмелай навагодняй „штучкай", зробленай камуністамі ў бэрлінскай радыё—надаўчай станцыі.

У часе перадачы праз радыё навагодняй прамовы прэзыдэнта Гіндэнбурга, якую ўважліва й захоплена слухала пэўне-ж уся патрыятычная Нямеччына, слухачы раптам пачулі замест патрыятычных слоў укаханага прэзыдэнта — рэвалюцыйныя лёзунгі камуністычнай пропаганды, заклікі да сьмяротнай барацьбы з урадам і... з прэзыдэнтам Гіндэнбургам! Слухачы, пачуўшыя раптам з вуснаў Гіндэнбурга „папулярныя" лёзунгі „чырвоных франтавікоў"—камуністаў: „далоў фашыстаўскі ўрад Брюнінга-Гіндэнбурга" і т. д., былі прост ахоплены жахам і ня ведалі, ці гэта іх прэзыдэнт звар'яцеў, ці ў іх уласнай галаве пачалася варыяцкая „рэвалюцыя"... Калі ўрэшце высьнілася, што гэта—„штучка" камуністаў, абурэньню грамадзянства проці іх ня было граніцаў. Уся паліцыя пастаўлена на ногі, каб знайсьці „жартаўнікоў".

### Сумны лёс Чычэрына.

Яшчэ нядаўна ўплывовы кіраўнік усей замежнай палітыкі СССР, наркоміндел Чычэрын, як даведаліся з Масквы нямецкія газэты, папаў цалком у нялаcку ў крэмлёўскіх самадзержцаў. Пазбаўлены ўсялякай пэнсіі, не зьбярогшы нічога за час свайго міністраваньня, ён чыста згалеў ды пачаў піць і гэтак папаў на самае „дно" сталічных вуліц. Нядаўна былы савецкі нарком знойдзены маскоўскай міліцыяй у моцна нецьвярозым стане, ляжучы на вуліцы, як бяздомны...

Вестка аб гэтым выклікала вялікае хваляваньне сярод замежных дыплёматаў у Маскве дый у Эўропе.

# З Савецкае Беларусі.

### Гаспадарчае жыцьцё.

Як падае „Савецкая Беларусь" з 22-га сьнежня м. г., т. зв. фінансавы плян Б.С.С.Р. выканала на 10-га сьнежня толькі на 68,3 прац., пры чым асабліва адставаньне ідзе па лініі дабраахвотных (!) плацяжоў, а іменна: рэалізацыя акцыяў трактарацэнтру выканана на 40,4 прац. квартальнага пляну, — абязацельствы на сельска-гаспадарчыя машыны 40,3 прац.,—рэалізацыя пазыкі на вёсцы на 31,2 прац. пляну.

Ня лепш ідзе і з абавязкавымі плацяжамі; і так з найбольш усёжтакі гаспадарчамоцных адзінак—з кулакоў і то пад шалёнай прэсыяй спагнана сельска-гаспадарчага падатку (адзінага (!) ) 79,5 прац. і страхоўкі толькі 64,6 прац.

### „Пралетары" і „буржуй"

*Путаніца разуменьняў.*

Нос глядзіцца проста ў неба,
Канялюш на ім — што трэба,
Акуляры залатыя,
Аж мігцяць пярсьцёнкі тыя,
У суконнай чорнай пары —
То — сапраўдны пролетары.
Бо ён ўласнасьці ня мае,
Калі ў месяц атрымае
Сто рублёў няшчасных нейкіх,
Дык за месяц да капейкі
Усё роўна іх растраціць,
Ну, бо што ж тут гэта значыць?

* * *

Чорны, змучаны, кудлаты,
Апранаха — адны латы,
Загарэлы нос аблезлы,
На калені порткі зьлезьлі,
Разбарсалася абора,
І ў вачох сьвяціцца гора,
Ўвесь да старца ён падобны,
То—буржуй, хаця і дробны.
А чаму? дык гэта ясна:
Бо ён, бачыш, мае ўласнасьць
І ня знаецца з рублямі,
Мае рукі з мазалямі,
Жонку—шчуплую кабетку,
(Меў кабылку—здохла ўлетку),
На курыных ножках хату,
Венік, мешалку, лапату...

З зборніку „Асьцё". **Крапіва.**

# ХРОНІКА.

— **„Новы Запавет".** Выйшла з друку новая кніжка пабеларуску — „Новы Запавет" і „Псальмы". Кніжка — асаблівая тым, што, ня гледзячы на вялізарнае аслабленьне рэлігійнасьці ў беларускіх масах, яна яшчэ доўга будзе чытацца цэлымі пакаленьнямі, якім дагэтуль гэты падставовы твор хрысьціянскае навукі быў даваны ў расейскай або польскай мове. „Новы Запавет" выдала Брытанскае і Замежнае Біблійнае Таварыства, якое друкавала біблію і Эвангельле блізу ўва ўсіх мовах сьвету. Не ўваходзячы ў ацэнку перакладу (гэта мусяць зрабіць фахоўцы), адзначаем самы факт надрукаваньня яго, бо-ж у нацыянальна-рэлігійным жыцьці беларусаў гэта паважны крок наперад у кірунку да зьбеларушчаньня царквы.

Кніжка выдана вельмі прыгожа, у крэпкай вокладцы і мае каля 450 страніц. Цана ж навет на нашы цяжкія часы — вельмі прыступная: 1 зл. 20 гр. экзэмпляр. Прадаецца ў Вільні ў Беларускай Кнігарні (Вострабрамская 1).

— **З Цэнтрасаюзу.** Прэзыдыум Цэнтрасаюзу прыступіў да апрацоўкі сыстэматычнага пляну выданьня беларускіх школьных падручнікаў. Часьць падручнікаў будзе выдана друкам, другая часьць — літаграфскім спосабам.

— **Замест слоў і розных нячыстых палітычных махінацый „Нацкому",** Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын адгукнулася на заклік Цэнтрасаюзу ціхаю, без рэклямы, але зусім рэальнаю працаю, арганізуючы страўню (сталоўку) для Беларускіх Студэнтаў. Ад 8-га гэтага студня страўня пачынае выдаваць абеды для студэнтаў. Каб даць магчымасьць здабыць вышэйшую асьвету незаможным студэнтам, Аб'яднаньне Жанчын будзе выдаваць ім зьніжковыя абеды па 40 грош.—на такую суму, якую штомесячна зьбярэ Цэнтрасаюз на гэтую мэту. Абеды выдаюцца па картачкам (абонамэнтам) ня менш як на тыдзень. Тыя студэнты, якія захочуць карыстацца студэнскай страўняй, павінны падаць аб гэтым заяву прэзыдыуму Аб'яднаньня (Сьв. Янская вул. № 11 кв. 3—супраць Унівэрсытэту).

— **Занятікі ў Беларускіх сярэдніх школах.** Пасьля калядных сьвятаў ўва ўсіх белар. школах нармальныя заняткі пачнуцца 12-га студзеня ў 8 гадз. раніцы.

— **Агульны Сход Беларускага Навуковага Т-ва.** 9-га гэтага студня адбудзецца паўторны сход Беларускага Навуковага Т-ва ў памяшчэньні Віл. Бел. Гімназіі (Вострабрамская вул. № 9) у 12 гадзін.

— **Факты і лічбы гаспадарчага крызісу.** За 1931 г. у Варшаве зьліквідавалася 510 гандлёвых фірмаў; у гэтую лічбу ня ўлічаны прамысловыя прадпрыемствы.

У нашай Вільні за адзін толькі месяц сьнежань зьліквідавалася звыш 100 гандлёвых прадпрыемстваў, а да 1 студня 1932 году толькі 60 пр. усіх тых, што мелі прамы-

# Гаспадарчы аддзел.

## Гадоўля курэй.

У якой-бы гаспадарчай дзеяльнасьці малазямельны селянін ні хацеў рабіць палепшаньне, усюды паўстане, як умова, узгадненьне свае дзеяльнасьці з дзеяльнасьцю суседа, салідарнасьць, аб'яднаньне. Гэтая ўмова зьяўляецца асноўнаю і пры прадукцыйнай гадоўлі курэй.

Калі куры гадуюцца так, як цяпер—гэта знача, не вядзецца ніякае працы к павышэньню носнасьці, то зразумела, што пры такім палажэньні для гаспадара ўсёроўна, як справа гадоўлі стаіць у суседа. Зусім што іншае, калі мы паставілі сабе за правіла, што не гадуем курэй, з якіх кожная ня дасьць нам хоць-бы 100 яёк у год, калі мы завялі ў сябе высока прадуктыўную пароду, заплаціўшы за распладовы матэр'ял вялікія грошы. У такім разе, калі нашы куры высокай носнасьці будуць хадзіць разам з суседзкімі мала носнымі, то атрымаем у нашчадках ужо ня чыстую пароду, а крыжанцоў, якіх носнасьць будзе ўжо значна меншай, чымся была ў чыстае пароды, а гэтым самым і даходнасьці ад іх ня будзе ніякае. А дзеля гэтага ёсьць адна рада: *у кожнай асобнай вёсцы павінны гадавацца куры аднае пароды.*

Побач аднастайнасьці ў сэнсе пароды, трэба вясьці працу для ўтрыманьня і павышэньня носнасьці. Праца гэтая палягае на тым, што на расплод бяруцца яйкі найбольш носных курэй. З усяго гэтага вынікае, што, застанавіўшыся на выбары тае ці іншае пароды, трэба яе ахоўваць ад крыжаваньня і вясьці падбор.

Але выбар пароды таксама ёсьць справай ня лёгкай. Тут трэба ўважаць, за што на рынку болей плаціцца. Ці лепей мясная парода курэй (калі дорага каштуе курынае мяса), ці болей можна зарабіць, калі трымаць носную пароду? Апрача гэтага, тут трэба мець яшчэ на ўвазе кармы, якія мы можам даваць сваім курам. Бо носная парода патрабуе лепшых кармоў, — патрабуе яна на працягу цэлага году (а знача і зімою), як расьлінныя кармы (зярняты, бульба, буракі і інш.), так і кармы жывёльнага паходжаньня (мясная мука, кравяная, касьцяная і г. д.); апрача гэтага ў добрых курыных гаспадарках рупяцца, каб узімку носныя куры мелі і зялёны корм (прарослыя зёрны, лісьцё капусты і інш.).

Каб зрабіць больш-шенш удачны выбар пароды, трэба хоць-бы ў асноўных рысах быць знаёмым з галоўнымі пародамі курэй. Дзеля гэтага мы пастараемся падаць кароткую характэрыстыку найчасьцей спатыканых у нашым Краі пародаў курэё, а ўласьне: з пародаў, якія даюць шмат мяса і параўнаўча добра нясуцца—Род-Айленды, Плімут-Рокі і Ваендоты, а з пародаў спэцыяльна носных—Зялёнаножкі і Леггорны.

*1) Род-Айленды.* Род-Айленды—цяжкія гаспадарскія куры. Цяпер вельмі модныя. За яйкі іхнія дорага плацяць. У Польшчы пашыраны Род-Айленды чырвоныя. Куры гэтае пароды даволі добра нясуцца, а разам з гэтым даюць шмат смачнага мяса. Яйкі нясуць вялікія, з цёмна афарбаванай шкарлупой.

*2) Плімут-Рокі.* Таксама нясуцца добра і даюць шмат мяса. Яйкі вялікія са шкарлупкаю цёмнаватага колеру. Апераньне маюць курапатаўднае.

*3) Ваендоты.* Падобныя да папярэдніх. Добрыя, як на мяса, так і на яйкі. У Польшчы болей пашырана белая адмена Ваендотаў.

Усе вышэйапісаныя пароды ёсьць паходжаньня загранічнага, аднак добра вытрымліваюць наш клімат і даюць не малы зыск, калі, разумеецца, за імі вядзецца належны дагляд.

*4) Зялёнаножкі.* Зялёнаножкі — гэта мяйсцовая носная парода. Ёсьць дзьве адмены гэтых курэй—з апераньнем курапатаўдным і белым. Парода гэтая маладая і мала ўсталеная. Найбольш усталенай зьяўляецца адмена курапатаўдная. Нясуцца гэтыя куры вельмі добра. Яйкі іх маюць шкарлупу зьлёгка зафарбаваную.

*5) Леггорны.* Парода гэта вызначаецца высокай носнасьцю, але ёсьць вельмі далікатнаю. Распаўсюджаны Леггорны з апераньнем белым і курапатаўдным. Гадоўля гэтае пароды добра аплачваецца, але толькі пры тэй умове, калі за імі вядзецца вельмі руплівы дагляд, бо парода гэтая, як ужо гаварылася, вельмі далікатная.

Апрача адпаведнае пароды, далейшаю ўмоваю добрае гадоўлі ёсьць належнае кармленьне і дагляд. Дзеля таго, каб куры добра нясьліся, як раней ужо гаварылася, трэба і зімою даваць прыблізна такі корм, які ўлетку куры знаходзяць на выганецці панадворку, — гэта корм як расьліннага, так і жывёльнага паходжаньня.

Паводле М. Трыбульскага дзенныя даўкі на чараду ў 10 курэй могуць быць такія:

1) 300 грамаў варанае бульбы, 200 грамаў пшанічных вотрубаў, 250 гр. сэрадэлявае мякіны, 100 гр. меленых касьцей, 100 гр. меленага дрэўнага вугальля і 10 гр. кухоннае солі. Палова гэтае даўкі даецца раніцай, а палова ў паўдні; вечарам-жа—500 гр. пазадкаў.

2) 1000 гр. варанае бульбы, 500 гр. малака, 250 гр. пшанічных вотрубаў, 50 гр. меленых касьцей — на ранак і палудзень, а вечарам 600 гр. аўса.

3) 300 гр. тварагу, 500 гр. варанае бульбы, 300 гр. пшанічных вотрубаў—на ранак і палудзень, а вечарам: 400 гр. аўса.

4) 400 гр. вараных буракоў, 400 гр. вотрубаў, 300 гр. канюшыннае мякіны, 100 гр. меленых касьцей, 100 гр. дрэўнага вугальля, 10 гр. солі—рана і а паўдні, вечарам-жа 400 гр. аўса.

5) 500 гр. размочанага чорствага хлеба, 500 гр. пшанічных вотрубаў, 150 гр. макухі (распаранае), 300 гр. капустных лісьцяў — рана і а паўдні, вечарам-жа 250—300 гр. аўса.

Як прыкармак, спэцыяльна пабуджаючы да носнасьці, дадаецца сушаная пацёртая крапіва. Вад мусіць быць таксама паддастаткам, але ня дужа халодная. Карысна асобна ставіць яшчэ тоўчаны тынк, тоўчаныя скарлупкі з яец і дрэўнае вугальле. Апошняе добра ўплывае на траўленьне.

**З. К.**

---

слова-гандлёвыя сьвядоцтвы ў 1931 г., аднавілі іх на 1932 г. Беспрацоўе сярод віленскіх шаўцоў усьцяж узрастае. У выніку гэтага — 95 пр. шаўцоў асталося бяз працы.

— **Сьмяротныя прысуды.** У Горадні даразны суд засудзіў за шпіёнства дзьве асобы на кару сьмерці праз павешаньне.

У сьвянцянскім вастрозе павешаны два бандыты за забойства з мэтай рабунку. Трэцяму бандыце, 17-гадоваму хлопцу, п. Прэзыдэнт замяніў кару сьмерці на вечную катаргу.

# Корэспондэнцыі.

### Гістарычны дакумэнт.

(З Ваўкавышчыны)

Пасылаем вам пасьведчаную копію прыгавору (Sygnatura akt Nr. Kps. 230/30. — postanowienie z dn. 4 listopada 1930 r.). У гэтым прыгаворы гаворыцца, што павятовы суд у Паразове, разгледзіўшы пропозыцію паст. п. п. ў Падароску з дн. 32 кастрычніка 1931 г. № 1656 у справе зацьверджаньня вобыску і сэквэстрацыі ў некалькіх сялян узятых паліцыяй запісак і кніжак, зацьвярдзіў сэквэстрацыю такіх кніжак: „...książki pod tytułem „Demon“ w języku białoruskim u Kołodzińskiego Aleksandra“, „11 sztuk pokwitowań kasowych, wydanych przez księgarnię białoruską“, „dwóch kalendarzy białoruskich na 1927 r. u Potreby Stefana, jednej książki białoruskiej, jednej legitymacji T. S. B., jednego programu w języku białoruskim u Pobudzieja Ignacego“ і г. д.

Мы падаем зьмест гэтага „postanowienia“ бяз ніякіх комэнтарыяў, спадзяючыся, што мо' знойдзецца хоць-бы ў польскім грамадзянстве хто колечы, каб зрабіць інтэрвэнцыю ў вышэйшых уладаў, бо-ж сваіх паслоў у гэтым Сойме ў нас няма. Трэба-ж урэшце паставіць ясна справу: ці беларуская кніжка падлягае адбіраньню ў людзей толькі затым, што яна друкавана ў беларускай мове? Бо-ж хіба нікому ў галаву ня прышло-б сэквэстраваць таго-ж „Дэмона“ [illegible] сейскім арыгінале ці ў польскім перакладзе.

Характэрна, што, як гаворыцца ў „postanowieniu“, паліцыя, адбіраючы ў сялян беларускія друкі, рабіла вобыскі „w celu odnalezienia nielegalnie posiadanej broni i literatury komunistycznej“. Аднак, ні таго, ні другога, як відаць з „postanowienia“, не аказалася...

**Тутэйшы.**

# УСЯЧЫНА.

### Якая пагода будзе ў 1932 годзе?

Швэдзкі мэтэоролёг Зандштрэм у гутарцы з адным журналістам выказаў думку, што пагода ў 1932 г мае быць падобная да пагоды 1929 г.: вясна — сьцюдзёная, халоднае і дажджлівае лета і прыгожая восень. Свае мяркаваньні швэдзкі вучоны абапёр на сваіх назіраньнях над тэмпэратурай цёплага цячэньня Гольфштрэму: калі ў ваколіцах Паўдзённае Грэнляндыі, Нью-Іорку і Бостону (ў Паўночнай Амэрыцы) тэмпэратура Гольфштрэму высокая, дык у паўдзённай часьці Эўропы тэмпэратура значна зьніжаецца. У сувязі з гэтым, калі тэмпэратура Гольфштрэму ў ваколіцах Норвэгіі высокая, ува ўсей Эўропе горача; калі-ж горача ў ваколіцах Ньюфаўнленду, дык Эўропа мерзьне.

Парыжская мэтэоролёгічная станцыя, аднак, ня вельмі верыць у слушнасьць заяваў Зандштрэма.

### Ахвярбоўка сьвятла і прадукцыйнасьць працы.

Д-р Руффэр з Бэрліну сцьвярдзіў, што ахварбоўка сьвятла мае вялікі ўплыў на прадукцыйнасьць працы. Паводле яго досьледаў, найбольш адпаведным асьвятленьнем пры ўмысловай працы зьяўляецца асьвятленьне жоўтае ці жоўтазялёнае.

### Зараза катару.

Амэрыканскія мэдычныя часопісі паведамляюць, што быццам аднаму прафэсару мэдыцыны ў Новым Іорку ўдалося выкрыць заразу катару. Калі гэта праўда, дык хутка знойдуць і лякарствы на гэную заразу, якую ў нас звычайна ня лічаць за хваробу, але якая так часта нам докучае. Трэба ведаць, што для нэграў звычайны катар зьяўляецца амаль што сьмяротнаю хваробаю.

# Паштовая скрынка.

**Маталеніку ў Кавальках.** Якія захады рабіць, каб адчыніць у вас школу, зможам вам напісаць, калі будзем ведаць: ці ёсьць у вашай вёсцы польская школа; калі не, дзе да гэткай школы найбліжэй; ад якога году тамака вучаць папольску. Дайце адказ.

Вашай моладзі найлепш выпісаць „Нёман“ (Wilno, ul. Kalwaryjska 53, m. 2). Плата за год 7 зал., за паўгоду 4 зал., за тры месяцы — 2 зл. 25 гр.



Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22